ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 35 (134) 15 - 21 верасьня 1995 г. Кошт 600 рублёў

НЯМА СЬВЯТА ТОЛЬКІ ДЛЯ ВАР'ЯТА! - ст. 2.

ЧАМУ ДАРАЖЭЕ ХЛЕБ? - ст. 3.

ЯКАЯ ЯНА, ГІСТАРЫЧНАЯ ПРАЎДА? - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## У СЬВЕТЛУЮ БУДУЧЫНЮ - З «БЕНЕФОНАМ»!

**125-ці гадовы Уладзімір Ільіч, які, як вядома, і зараз жывей усіх жывых, у апошнія часы стаў зацятым аматарам спорту і рэкламы.**

Ня так даўно пад носам у правадыра гарадзенскія хлопцы дэманстравалі сваё майстэрства вулічнага баскетбола, а 8 верасьня на пляцы ля помніка было праведзена рэкламнае шоў фінскай кампаніі «Бенефон», якая распрадае тэлефоны сотавай сувязі. Фінскія хлопцы Міка і Міккі прываблівалі патэнцыяльных пакупнікоў сьпецыяльнымі нумарамі мотаакрабатыкі, конкурсамі кіраваньня адмысловым роварам, гаваркі вядучы ўвесь час усхваляў прыгожых гарадзенскіх дзяўчат ды «прекрасного Владимира Ильича», абяцаў скідку ў 150 долараў тым, хто пажадае тут жа купіць тэлефон. Глядачы ахвотна бралі ўдзел у шоў, разглядалі выставу тавараў, але кошт гэтых, безумоўна, вельмі карысных апаратаў сёньня па кішэні толькі адзінкам. Рэкламнае шоў «Бенефона» было спланаванае хутчэй з прыцэлам на будучыню. А яна, як вучыў вялікі Ленін, абяцае быць сьветлай.

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

## З КУВАЛДАЙ НА ЛЕНІНА

**8 верасьня лідзкая міліцыя сустрэла Дзень беларускай вайсковай славы ў поўнай баявой гатоўнасьці.**

У бронекамізэльках, з аўтаматамі, на машынах і пешшу міліцыянты гойсалі па Лідзе ў пошуках двух дзецюкоў, якія ноччу кувалдай адбілі галаву ад помніка правадыру ўсіх працоўных каля чыгуначнага вакзала.

Міліцыя затрымала аднаго падазронага на месцы здарэньня і шукае яшчэ аднаго. Вінаватыя затрыманы ці не - невядома, але ён быў зьбіты дубінкамі і нагамі «на чорны яблык». Па факту пашкоджаньня помніка ўзбуджана крымінальная справа.

**Зьміцер ХІТРОВІЧ.**

## КРЫЎДЗІЦЕЛЬ ТЭЛЕВІЗІЁНШЧЫКАЎ ПАКАРАНЫ

**Як паведамляла «Пагоня», 10 ліпеня трактарыст калгаса «Кастрычнік» Гарадзенскага раёну П.Скоблікаў, будучы «пад мухай», наўмысна наехаў трактарам на «Масквіч» абласнога тэлерадыё-аб'яднаньня.**

Дзякуй Богу, члены здымачнай групы не пацярпелі. Затое студыйная аўтамашына фактычна ператварылася ў металалом. Па гэтаму факту кіраўніцтвам тэлерадыёаб'яднаньня была складзена адпаведная заява ў гарадзенскі РАУС.

Учынак П.Скоблікава не прайшоў яму дарма. 7 верасьня нарсуд Гарадзенскага раёну прыгаварыў яго да трох гадоў пазбаўленьня волі ўмоўна з «абавязковым прыцягненьнем да працы ў месцах, вызначаемых ворганамі, якія адказваюць за выкананьне прыгавору».

**Д.А.**

## БАЦЬКА ЗЬЛІТАВАЎСЯ

Навучальны год у прафтэхвучэльнях вобласьці пачынаўся няррадасна. Будучыя хлебаробы і электрыкі, кіроўцы і трактарысты, швачкі і гароднікаводы - словам, усе, каго мы многія гады з гонарам называлі рабочай зьменай, даведаўшыся, што прэзідэнт пазбавіў іх галоўнай прывілеі - дзяржзабесьпячэньня - меркавалі, як выжыць бяз грошай, бяз ежы, без адзеньня... Бо разумныя дзядзькі, напісаўшы новыя распараджэньні, палічылі, што 15-18-гадовым юнакам і дзяўчатам хопіць аднаразовага харчаваньня ў сталоўцы. І ўсё: ніякай, як раней, стыпендыі, аддзеньня. Гэта пры тым, што большасьць навучэнцаў -вясковыя дзеці, якія пры хатах не жывуць.

Ламалі галовы дырэктары вучэльняў, выкладчыкі. Ну якая вучоба на галодны страўнік? Як глядзець у вочы дзецям, іх бацькам?

Але, на шчасьце, бацька зьлітаваўся. Па новым указаньні навучэнцы з вёсак, якія ня маюць магчымасьці пасьнедаць і павячэраць у хаце, змогуць харчавацца ў сталоўцы. Астатнім жа застаецца спадзявацца толькі на ўласных бацькоў.

Гледзячы на ўсё гэта, на паўпустыя кішэні педагогаў, на адносіны ўраду да адукацыі, міжволі думаеш: а навошта яна наогул, гэтая навука? Навошта ПТВ з іх высокакваліфікаванымі выпускнікамі? Рабочы ж ён чым дурнейшы, тым менш патрабуе... А на торжышча й без дыплому прымаюць...

**Ала БІБІКАВА.**

## ЗАБІЛІ АМЭРЫКАНСКІХ ШПІЁНАЎ?

**У апошнія дні ўсе сродкі масавай інфармацыі сьвету абыйшло паведамленьне, што непадалёк ад Бярозы беларускія супрацьпаветраныя сілы зьбілі паветраны шар, які перасёк польска-беларускую мяжу. Загінулі два пілоты, якія былі на борце шару.**

У афіцыйнай заяве нашага ўраду гаварылася, што «аб'ект» быў заўважаны ранкам 12 верасьня. Дзьве гадзіны беларускія супрацьпаветраныя сілы спрабавалі ўступіць у кантакт з пілотам. Вакол шара лётаў верталёт ВПС, рабіліся папераджальныя стрэлы, але лятаючы аб'ект працягваў рухацца «у глыб тэрыторыі Беларусі». І тады было прынята рашэньне зьнішчыць яго. У выніку загінулі людзі, «асобы якіх высьвятляюцца». Між тым, увесь сьвет ведае, што загінулі амэрыканцы. Больш таго, польскае тэлебачаньне паведаміла, што шар быў зьбіты стрэлам салдата. Аднак усю праўду, безумоўна, скажа нам створаная прэзідэнтам камісія на чале з Міхаілам Мясьніковічам. Яна, напэўна, высьветліць, што на борце шара знаходзіліся ядзерныя боегалоўкі, прызначаныя для прэзідэнцкай рэзідэнцыі, і адкажа на пытаньне, колькі каштуе чалавечае жыцьцё. На фоне апошніх заяваў беларускага кіраўніцтва аб неабходнасьці стварэньня альтэрнатыўнага НАТА ваеннага блоку дзяржаваў СНД, глеба для абвастрэньня адносін з Захадам знойдзена.

Між тым, акрамя зьбітага быў і яшчэ адзін паветраны шар, які прызямліўся 1? верасьня непадалёк ад Зэльвы. На борце яго таксама знаходзіліся два грамадзяніны ЗША. Як высьветлілася, у Швайцарыі быў дадзены старт міжнародных спаборніцтваў па паветранаму плаваньню, удзельнікі якіх і заляцелі на Гарадзеншчыну. Ніякіх парушэньняў у іх дзеяньнях ні міліцыя, ні памежнікі не заўважылі, і таму ў той жа дзень амэрыканцы разам са швайцарцамі, якія на мікрааўтобусе суправаджалі палёт экіпажа, накіраваліся ў Польшчу.

**Р.Д.**

## ПАМЕРЦІ НЕ ПАМРЭМ, АЛЕ І...

**Як паведаміў на прэс-канферэнцыі, прысьвечанай падрыхтоўцы Гарадзенскай вобласьці да зімы намесьнік старшыні аблвыканкаму В.Чорны, аб'яднаньне «Гродна-энерга» пры нарматыве 44 тысячы тон назапасіла 60 тысяч. Дастаткова нарыхтавала вугля жыльлёва-камунальная гаспадарка. Затое па торфу, брыкету, дравах ёсьць пытаньні. Аналагічная сітуацыя з пячным палівам. Яшчэ горш справы ў сельскай гаспадарцы. І калі, па словах В.Чорнага, мазута нарыхтавана 90% ад патрэбы, то «запасы вугля складаюць мізерны працэнт».**

На сёньняшні дзень на вёсцы налічваецца 250 тысяч спажыўцоў паліва. Як вядома, грамадзяне аплочваюць 40% яго цаны, астатняе кампенсуецца за кошт бюджэту. Патрэба ў датацыях складае сёлета 68 мільярдаў 763 мільёны рублёў, урадам жа прадугледжана выдзяліць 43 мільярды 400 мільёнаў рублёў. А за восем месяцаў вобласьць атрымала толькі 24 мільярды 66 мільёнаў. Калі будуць выдзеленыя астатнія, сказаць цяжка. Тое ж датычыцца і бюджэтных арганізацый на сяле. Для іх забесьпячэньня палівам выдзелена 50% сродкаў ад неабходнага. Нядзіўна, што ўстановы аховы здароўя забясьпечаны ім на 43%, школы і ворганы сацзабесьпячэньня - на 38%, а сельскія саветы толькі на 23%. Пэўныя надзеі ў сувязі з гэтым ускладаюцца на абласны бюджэт. Але, як кажуць, надзея памірае апошняй.

Няважныя справы з палівам і на шэрагу прамысловых прадпрыемстваў. Так, напрыклад, Гарадзенскае тонкасуконнае аб'яднаньне назапасіла толькі 20% мазуту. У цэлым жа гэтага віду паліва прадпрыемствамі нарыхтавана дастаткова. Але існуе іншая праблема - неплацяжы. Таму запазычанасьць «Гроднаэнерга» з газ складае 132 мільярды рублёў (57 мільярдаў - з мінулага года), за пакупную энергію - 78 мільярдаў рублёў. Нядзіўна, што аб'екты, якія не адключаліся ад крыніц спажываньня энергіі, можна пералічыць па пальцах. У сваю чаргу, газавая гаспадарка Гарадзеншчыны завінавацілася Расеі 188,3 мільярда рублёў, і гэта на пачатак верасьня. Праўда, кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў зразумелі, што набліжаецца зіма, і пачалі разьлічвацца. Калі за ліпень аплата за газ складала 25%, а за электраэнергію - 30%, дык ў жніўні - ужо 75% і 80% адпаведна.

Існуе ўпэўненасьць, што Гарадзеншчына не застанецца зімой без цяпла і сьвятла, бо нарматыўныя запасы паліва ствараюцца, каб працаваць на іх у выпадку адключэньня энергіі ці газа. Так, толькі эксплуатацыйныя запасы газа на ЦЭЦ дазваляюць працаваць цэлы месяц. Акрамя таго, існуюць яшчэ і дзяржаўныя запасы. За даўгі Расея можа адключыць газ у любы момант, але наўрад ці гэта зробіць. Толькі аднойчы яго падача скарачалася на 50%. Праўда, распрацаваны графікі пераводу кацельных усіх гаспадарак вобласьці на рэзервовае паліва ў выпадку памяншэньня падачы газу,а дызельныя электрастанцыі падрыхтаваны да работы ў эстрэмальных умовах.

Узьнімалася на прэс-канферэнцыі і пытаньне разьлікаў за жыльлёва-камунальныя паслугі. Высьветлілася, што павялічэньне тарыфаў на іх спрыяе росту колькасьці неплацельшчыкаў. Калі раней на Гарадзенчшыне своечасова не разьлічваліся за гэтыя паслугі каля 7,5% сем'яў, то за апошні час гэтая лічба павялічылася ўдвая. Але механізму спагнаньня даўгоў з жыльцоў не існуе. Цяжка таксама прымусіць людзей быць больш ашчаднымі.

Часткова праблему магла б вырашыць устаноўка тых жа прыбораў уліку вады. І ўжо падлічана, што ў дамах, дзе гэта зроблена, яе спажываньне зьменшылася амаль удвая. Зразумела, каб устанавіць лічыльнікі, патрэбны сродкі. На гэтыя мэты планавалася выдзяліць 25 мільярдаў рублёў. Але на канец III квартала вобласьць атрымала толькі 1,5 мільярда рублёў. З-за нізкай плацёжаздольнасьці спажыўцоў вельмі марудна вядзецца і ўстаноўка лічыльнікаў спажываньня газу. Сёлета іх планавалася ўстанавіць 25 тысяч, устаноўлена ж толькі 4 тысячы 200. Таму ізноў жыльцы, каб пры неабходнасьці абагрэць свае кватэры, будуць запальваць газавыя камфоркі.

**А.ДУК.**

**ЗАСТАЎСЯ АПОШНІ ШАНЦ!**
**Для гарадзенцаў і жыхароў вобласьці падпіска на "Пагоню" працягнута да 20 верасьня.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі Беларусі
"Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63124

ПАГОНЯ

Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | X | X | X |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозьвішча, ініцыялы)

| | | |
|---|---|---|
| | | |
| ПВ | Месца | літар |

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газэту 63124

ПАГОНЯ

| Кошт | падпіскі | 15000 руб. | Колькасьць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пера-адрасоўкі | руб. | | |

на 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | X | X | X |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозьвішча, ініцыялы)

# ПРА́ВА - ЁСЬЦЬ ВОЛЯ ПАНУЮЧАГА,
## АЛЬБО МАРКСІЗМ - НЕ ДОГМА

Любы савецкі чалавек, якому пашчасьціла атрымаць бясплатную адукацыю, ведае, што славуты сваёй барадою германскападданы герр Карл Маркс, засвоіўшы працы сваіх земляўкоў Гегеля і Феербаха, адкрыў квінтэсэнцыю грамадзкага існаваньня: усё пачынаецца барацьбой класаў за свае інтарэсы. Адсюль шляхам простага катэгарычнага сілагізму ён вывеў азначэньне права: права - ёсьць воля пануючага класа, уведзеная ў закон. Вялікі расейскі рэвалюцыянер Ульянаў па мянушчы Ленін творча разьвіў марксізм, выкінуўшым з гэтай формулы «закон», цалкам справядліва палічыўшы яго мелкабуржуазным перажыткам 19 стагоддзя. Сапраўды, калі клас мае досыць сілы, каб працаваць, навошта яго воля класа павінна абавязкова «уводзіцца ў закон»? Таварыш Сталін прадоўжыў справу Леніна, а таму з формулы Маркса прыбраў «пануючы клас». І праўда, пайдзі разьбярыся, чыя там воля і хто там пануе. Наступныя савецкія кіраўнікі творча гэты накірунак марксізму не распрацоўвалі, выкідаць яшчэ штосьці было не магчыма.

Ды толькі жыцьцё на месцы не стаіць. Яно ставіць усё новыя і новыя задачы. Маркс жыў у часы манархіі, Ленін і Сталін - за савецкай уладай. Хто мог прадбачыць, што замест камунізму нам давядзецца жыць у прэзідэнцкай рэспубліцы. Чым жа мае быць права ва ўмовах прэзідэнцкага кіраваньня? Амаль штодзённыя Указы прэзідэнта паказваюць, што адказ і на гэтае пытаньне ўжо маем. Хто ініцыятар стварэньня новага, эксклюзіўна беларускага, падыходу да права - вядома. Вядома таксама, што да яго быў запрошаны Мар..., не не Маркс, а так, іншы чалавек. І вось грамадзтва мае нарэшце тэарытычную базу і практычную інструкцыю па пытаньнях права: **ПРАВА - ЁСЬЦЬ ВОЛЯ ПАНУЮЧАГА, УВЕДЗЕНАЯ Ў ПАДЗАКОННЫ АКТ.**

Некаторыя дагматыкі могуць сказаць (не сказаць, дык падумаць), што гэта рэвізіянізм, маўляў, дзе ізноў «клас» і «закон»? Аднак, кожны сапраўдны малады прагматык разумее, што Мар..., прабачце, той іншы чалавек, мае рацыю. Таму што адразу вярнуцца да формулы герра Маркса немагчыма. Трэба пасьлядоўна ачышчацца ад скажэньняў і кадравых перараджэньняў.

Вось чаму ўсе, хто не зьяўляецца паліцаем, атрэб'ем, шпіёнам і západэнцам, цалкам і без ваганьняў у імя стабілізацыі падтрымліваюць чарговую перамогу ісьцінна народнай думкі.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# НЯМА СЬВЯТА ТОЛЬКІ ДЛЯ ВАР'ЯТА!

**Нягледзячы на ўсе намаганьні беларускага ўраду дыскрэдытаваць справу сьвяткаваньня Дня беларускай вайсковай славы, у многіх гарадах краіны 8 верасьня памяць аб гэтай падзеі была ўшанаваная.**




*Адкрыцьцё мемарыяльнага знаку.*

У Горадні ўрачыстасьці праходзілі на высокім беразе Нёмана, ля сьцен старажытнай Каложы. У гэтай царкве, выпраўляючыся на шматлікія войны сярэднявечча, маліліся не адно пакаленьне гарадзенцаў. Тут адпяваліся душы загінуўшых змагароў за Айчыну. Так, напэўна, было і пасьля бітвы пад Воршай, 481-я ўгодкі якой і сталі нагодай для ўрачыстай імпрэзы, зладжанай грамадзкасьцю горада.

У гэтай бітве войскі Вялікага княства Літоўскага перамаглі пераўзыходзячыя сілы акупантаў - палкі маскоўскага князя Васіля III. Зазначым, перамаглі акупантаў, а ўжо ў другую чаргу - маскавітаў.

Удзельнікі сьвята, а іх было нямала, паставілі сьвечкі ў Каложскай царкве. Затым перад прысутнымі з кароткімі прамовамі выступілі старшыня Рады БНФ у Горадні сп.Жынь, старшыня гарадзенскай філіі БСДГ сп.Патрэба, старшыня дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў сп.Мельнікаў і старшыня Савету абласнога аб'яднаньня летувісаў «Тэвіне» сп.Дзіргінчус. Гісторык сп.Руднік распавёў прысутным пра прычыны, ход і значэньне бітвы пад Воршай. Пасьля гэтага адбылося адкрыцьцё (дакладней, вяртаньне на сваё месца) мемарыяльнага знака «Пагоня на Грунвальд», які асьвяціўлі настаяцель Барысаглебскай царквы айцец Анатоль і пралат Фарнага касьцёла ксёндз Юзэф Трубовіч.

Завершыў імпрэзу невялікі, але надзвычай удалы канцэрт, які да апошняга акорда трымаў у захапленьні ўсіх гледачоў.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**
**Фота М.АНІНЧАНКІ.**

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ «АДРАДЖЭНЬНЕ» ПРЫМЕ ЎДЗЕЛ У АСЕНЬНІХ ВЫБАРАХ

**Такое рашэньне прыняў Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» на чарговым паседжаньні 9 верасьня.**

Фронт пойдзе на выбары ў цесным саюзе з усімі дэмакратычнымі і патрыятычнымі сіламі, якія стаяць на дзяржаўніцкіх пазіцыях. Разам з тым была адзначана немагчымасьць удзелу Фронту ў якіх-небудзь «круглых сталах» з прадстаўнікамі правячай хунты.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

# НА БЕЛАРУСІ ЎСТАНОЎЛЕНА ДЫКТАТУРА

**(з выступу Зянона Пазьняка на Сойме БНФ «Адраджэньне»)**

На Беларусі ўстаноўлена аўтарытарная дыктатура Аляксандра Лукашэнкі. Гэта нарэшце зразумеў нават Вярхоўны Савет. Зараз адбываецца ўмацаваньне рэжыму. Беларусь больш не зьяўляецца ні прававой, ні дэмакратычнай краінай. Якія прыкметы прававой дзяржавы? Прававая дзяржава - гэта выкананьне закону ўсімі зьверху да нізу. Дзяржаўны чыноўнік не павінен выконваць загад, які парушае закон. У нас не выконваюцца ні законы, ні Канстытуцыя, ні правы чалавека. Беларусь - не дэмакратычная краіна. У дэмакратычнай краіне павінна быць падзяленьне уладаў, свабодныя сродкі масавай інфармацыі і падтрымоўваецца правы чалавека. У нас сродкі масавай інфармацыі манапалізаваныя адміністрацыяй Прэзідэнта. Нешматлікім малатыражным незалежным газетам пагражае закрыцьцё. Нядаўна быў арыштаваны рахунак «Свабоды». Ня можа ісьці ніякай гаворкі пра правы чалавека. Страйк у метрапалітэне выразна сьведчыць пра іх поўнае ігнараваньне. Пры гэтым рэжым цынічна заяўляе, што так будзе і далей.

Падзяленьне ўладаў існуе толькі фармальна. Узурпаваны бюджэт, фінансы. Калі раней законы не выконваліся, то зараз у адкрытую заяўляецца, што і ня будуць выконвацца.

Работнікам судоў паніжана зарплата. Суд знаходзіцца пад прэсам выканаўчай улады, у якой надта моцныя рычагі.

Пракуратура павінна быць незалежным органам. У нас жа выканаўца абавязкаў генеральнага пракурора заявіў, што ня будзе выконваць ні Канстытуцыю, ні законы, а толькі ўказы Прэзідэнта.

Зараз рэжым вядзе палітыку на ліквідацыю ці аслабленьне парламенцкай сістэмы.

Наступны крок - ліквідацыя апазіцыі. Гэтая палітыка набірае хуткасьць. У бліжэйшы час усе партыі будуць закрытыя, свабодная прэса задушана. Рэжым вядзе вайну супраць усіх, таму што яго ворагі - ужо свабодныя людзі: банкіры, прадпрымальнікі, інтэлігенцыя. Рыхтуецца база для рэпрэсій.

Грамадзтва пачынае адчуваць небясьпеку рэжыму. Адзін з яскравых довадаў гэтаму - пазіцыя Канстытуцыйнага суда. Ня маюць упэўненасьці нават тыя, хто служыць рэжыму. Кожнага могуць прынізіць і выгнаць. ~~Вярхоўны Савет, з~~ якога ў вертыкаль пайшлі многія артадоксы, на сёньня больш паловы рашэньняў прымае з падачы апазіцыі. Ён усьвядоміў сваю апазіцыйнасьць хуньце.

Калі б у нас быў рэжым, які зыходзіць з унутранай палітыкі, то можна было б пакінуць гэты Вярхоўны Савет, але ў нашай сітуацыі гэта рабіць нельга. Ідзе пэўная пераацэнка каштоўнасьцяў у асяроддзі наменклатуры і нават вертыкалі. Мы павінны гуртаваць дзяржаўніцкія сілы, знаходзіць новыя формы працы.

# САБАКА - СІМВАЛ РЭЖЫМУ

**8 верасьня ў Менску на «падтрыманьне парадку» сярод людзей, якія прыйшлі ўскласьці кветкі да помніка Янку Купалу і Максіму Багдановічу былі кінуты АМАП і міліцыя са службовымі сабакамі.**

Зьвяры шчэрылі зубы на дзетак, якія несьлі кветкі, не ўсьведамляючы сваім сабачым розумам, чыёй зброяй яны зьяўляюцца. Але на тое яны й сабакі. Які ж розум у тых, хто вёў гэтых сабак і ў тых, хто паслаў сабачых павадыроў?

8 верасьня сімвалам лукашэнкаўскага рэжыму стаў сабака. Якога дня сабаку заменіць вязьніца і аўтамат?

**Кастусь АЛЬГЯРДОВІЧ.**

# ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ Ў ЛІДЗЕ

**8 верасьня патрыятычная грамадзкасьць Ліды наладзіла ўрачыстае сьвяткаваньне Дня беларускай вайсковай славы.**

Сябры БНФ, БСДГ, ТБМ, БЗВ правялі ўрачысты мітынг на традыцыйным месцы каля помніка Францыску Скарыну, і калонай пад бел-чырвона-белымі сьцягамі рушылі да Дома культуры, дзе даваў цудоўны канцэрт ансамбль «Лідчанка». У Доме культуры і адбылося сумеснае сьвяткаваньне Дня беларускай вайсковай славы і закрыцьця тыдня беларускага пісьменства і друку.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

# РАСПАЎСЮДЖВАЮЦЬ ХЛУСЬНЮ

**5 верасьня агенцтва Белінфарм са спасылкай на галоўнае Упраўленьне грамадзка-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта распаўсюдзіла паведамленьне пра тое, што летувіскай партыяй «Саюз Айчыны» на чале з В.Ланзбергісам прынята рашэньне аб аказаньні грашовай дапамогі Беларускаму Народнаму Фронту. Аднак, як паведаміў старшыня БНФ З.Пазьняк, дадзеная інфармацыя не адпавядае рэчаіснасьці.**

Прэс-сакратар БНФ С.Навумчык зрабіў заяву, у якой, у прыватнасьці, адзначыў: «З размовы па тэлефону з В.Ландзбергісам я высьвятліў, што летувіская Кансерватыўная партыя «Саюз Айчыны» рашэньняў аб фінансавай дапамозе БНФ не прымала. Фракцыя Кансерватыўнай партыі ў летувіскім Сейме расцаніла інфармацыю Белінфарма як правакацыю».

Як вядома, беларускае заканадаўства забараняе фінансаваньне партый замежнымі арганізацыямі, установамі ці прыватнымі асобамі. Таму Народны Фронт лічыць, што інфармацыя Белінфарма ня што іншае, як імкненьне стварыць падставы для забароны дзейнасьці БНФ напярэдадні парламанцкіх выбараў.

**СІМ**

 



## ПРЭЗІДЭНТ ПАПЯРЭДЖВАЕ:

# ПІСАЦЬ У ГАЗЕТУ - ШКОДНА ДЛЯ ЗДАРОЎЯ

**Першаверасьнёўскі зварот прэзідэнта да кіраўнікоў сродкаў масавай інфармацыі прымусіў апошніх пачухаць патыліцы: што б гэта азначала?**

Цяпер, асабліва пасьля травеньскага рэферэндуму і напярэдадні паўторных выбараў, некаторыя сродкі масавай інфармацыі сталі на шлях прамога невыкананьня палажэньняў Закона аб друку, якія датычацца адказнасьці за данясеньне насельніцтва праўдзівай інфармацыі, гаворыць прэзідэнт. І далей тлумачыць: «Асобныя рэдакцыі скажаюць вынікі рэферэндуму, накірункі палітыкі, барацьбу з карупцыяй, прапаведуюць нацыяналізм і русафобію...»

Чаму толькі цяпер і некаторыя? Тыя газеты і журналісты, якія хаця б крыху паважаюць сябе, з часоў аб'яўленьня галоснасьці супярэчылі М.Дземянцею, не давалі праходу С.Шушкевічу, а цяпер, натуральна, крытыкуюць Лукашэнку. Пайшоў, як той казаў, нармальны працэс: для таго шчупак у сажалцы, каб карась ня спаў.

Калі спыніцца толькі па пунктах абвінавачаньня, прабачце... звароту, дык прэзідэнт, як заўсёды, страшна лукавіць. Гэта ж трэба, у парушэньні закона абвінавачвае самы першы яго парушальнік: успомнім белыя плямы, зьнясьцё рэдактараў шэрагу беларускіх газет. Бервяно ў сваім воку прэзідэнт паранейшаму ня бачыць.

Русафобія? Ня бачыў такога і нідзе ня чуў. Але скажыце мне, чым русафобія горшая, чым яна ўвогуле адрозьніваецца ад беларусафобіі, якая выяўляецца праз клінічнае непрыныцце нацыянальных сімвалаў, роднай мовы, роднай гісторыі (успомнім хваравітыя адносіны А.Лукашэнкі да перамог пад Грунвальдам ці Воршай); прыклад беларусафобіі падае сам прэзідэнт Беларусі.

Скажаецца выяўленьне рэальных фактаў карупцыі і хабарніцтва, папракае прэзідэнт. Дзіўна... Як можна сказіць тое, чаго няма. Дзе гэтая барацьба з карупцыяй? Ну, скажам, у нас на Гарадзеншчыне зьнялі некаторых старшынь калгасаў: ну і што? Калгасьнікі сталі лепей жыць, а гараджане атрымалі больш якасных і танных прадуктаў? Народу няма розьніц, колькі кіраўнікоў, чыноўнікаў выгналі і аддалі пад суд (ды хоць усіх!), народу патрэбны вынік, а выніку няма. Ня стала менш абмежаваньняў, ня стала больш разумным падаткаабкладаньне. Як перашкаджалі тым, хто хоча штосьці зрабіць, так і перашкаджаюць.

Чаго ж хоча прэзідэнт? Да прыкладу, ён хоча больш матэрыялаў аб «человеке труда». Мы б з радасьцю. Але паспрабуйце падыйсьці да станочніка, які толькі зараз атрымаў зарплату за травень і не рублямі, а гатовай прадукцыяй, і паспытайце наконт працоўных адносін - рабочы пабіць можа, і ня слаба.

"Як кіраўнік дзяржавы, лічу неабходным прыцягнуць вашую ўвагу да праблемаў у сродках масавай інфармацыі" - настойвае прэзідэнт. Зноў усё з ног на галаву! Можна падумаць, кіраўнікі СМІ сваіх праблем ня ведаюць. Гэта яны могуць зьвярнуць увагу прэзідэнта на непамерныя падаткі, пастаянны рост цэн на паперу і друкарскія паслугі, на палкоўнічая-зампалітаўскія кіруючыя ўказаньні і на сталую пагрозу звальненьня, закрыцьця, забароны. Ці не так?

Калі прэзідэнт спасылаецца на закон, трэба і яму нагадаць напрыклад артыкул з Закона аб друку: «Дзяржава разглядае сістэму сродкаў масавай інфармацыі як аснову рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзян на свабоду слова і інфармацыі, як важную складаючую частку нацыянальнай культуры і вызначае меры, накіраваныя на забесьпячэньне эканамічнай падтрымкі сродкаў масавай інфармацыі». Пад гэтымі словамі стаіць подпіс: А.Лукашэнка. Ну дык хай і выконвае, а не шукае ў цёмным пакоі чорнага ката, якога там няма.

**А.ЛАПЦЕЎ.**

# ВОПЫТ МФК ВЫКАРЫСТАЕ І МЕНСК

**7 верасьня ў Менскім гарвыканкаме прайшла цырымонія падпісаньня дагавору аб супрацоўніцтве ў вобласьці малой прыватызацыі паміж Мінгарвыканкамам, гарадзкім камітэтам па кіраваньню дзяржмаёмасьцю і прыватызацыі Беларусі і Міжнароднай фінансавай карпарацыяй (МФК).**

Гэты акт не зьяўляецца выпадковым. Прыватызацыя прадпрыемстваў гандлю, грамадзкага харчаваньня, бытавога абслугоўваньня ў сталіцы Беларусі вядзецца з 1991 года.

На сёньняшні дзень у Менску ўжо прыватызавана 198 аб'ектаў камунальнай уласнасьці. І, як лічыць намесьнік старшыні Менгарвыканкаму М.Пацкевіч, яны працуюць лепш за дзяржаўныя. Хацелася б, каб працэс разьдзяржаўленьня быў больш дынамічным. Але праводзіць прыватызацыю больш хуткімі тэмпамі немагчыма з-за недастатковасьці вопыту ў гэтай сьферы, фінансавых магчымасьцяў. Таму, вывучыўшы дзейнасьць МФК у Ніжнім Ноўгарадзе, Берасьці, іншых гарадах, была зроблена выснова, што гэтая арганізацыя валодае вопытам, які можна прымяніць у Менску. Важным фактарам, які паўплываў на рашэньне аб заключэньні дагавора, зьяўляецца і тое, што МФК бярэ на сябе фінансаваньне ўсіх тэхнічных пытаньняў, зьвязаных з малой прыватызацыяй.

М.Пацкевіч перакананы, што падпісаньне дагавора і работа, якая будзе праводзіцца ў адпаведнасьці з ім, «дасьць новы штуршок працэсу малой прыватызацыі ў Менску». Ёсьць спадзяваньне, што разьдзяржаўленьне прывядзе да паляпшэньня культуры абслугоўваньня насельніцтва, папаўненьня гарадзкога бюджэту за кошт падаткаў ад дзейнасьці прыватызаваных прадпрыемстваў. «Мы ня ставім задачы толькі павялічыць зборы ад прыватызацыі. Лепей папоўніць бюджэт апасродкавана: праз актывізацыю работы прадпрыемстваў, разьвіцьцё прадпрымальніцтва», - падкрэсьліў М.Пацкевіч.

Аб падтрымцы ідэі супрацоўніцтва між сталічным гарвыканкамам і МФК з боку Міністэрства па кіраваньню дзяржаўнай маёмасьцю і прыватызацыі паведаміў намесьнік міністра В.Давыдзенка. Па яго словах, на сёньняшні дзень на Беларусі прыватызавана 946 прадпрыемстваў камунальнай уласнасьці ці менш 10 працэнтаў іх агульнай колькасьці. Сёлета праграмамі аб малай прыватызацыі прадугледжана разьдзяржавіць 1042 аб'екта. На думку В.Давыдзенкі, «можна было б пайсьці й больш шырокім крокам у гэтым накірунку, фарсіраваць гэты працэс, каб да канца наступнага года абсалютная большасьць аб'ектаў камунальнай уласнасьці была прыватызавана».

Найлепшыя пажаданьні ад Пасла ЗША на Беларусі Ялавеца перадаў з нагоды падпісаньня дагавора Часовы Паверанны ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Д.Борыс. Ён сказаў, што ЗША падтрымлівае памкненьні Беларусі , накіраваныя на стварэньне рыначнай эканомікі , і прыватызацыя зьяўляецца важным крокам на шляху дасягненьня гэтай мэты. А ўлічваючы, што МФК мае вялікі вопыт правядзеньня малой прыватызацыі ня толькі на Беларусі, але і ў іншых краінах, яна «можа дапамагчы гораду Менску заняць лідыруючае становішча ў гэтай вобласьці».

А вопыт у МФК сапраўды вялікі. Гэтая арганізацыя заснавана ў 1956 годзе з мэтай садзеяньня прыватнаму сектару ў краінах-членах МФК. Зараз дапамога ажыцьцяўляецца больш 90 краінам. Рэспубліка Беларусь стала членам МФК у лістападзе 1992 года. А ў траўні 1993 года МФК пачала аказваць тэхнічную дапамогу Беларусі ў правядзеньні малой прыватызацыі. За гэты час наладзілася эфектыўная работа з органамі ўлады Берасьця, Горадні, Воршы. Пры ўдзеле кансультантаў МФК ужо праведзены 31 аўкцыён, на якіх набылі новых уласьнікаў 136 аб'ектаў.

Як адзначыла кіраўнік праекта МФК «Малая прыватызацыя на Беларусі» Р.Розенблюм: «МФК пачынае супрацоўніцтва толькі з тымі гарадамі, дзе гарадзкія ўлады зьяўляюцца прыхільнікамі эканамічных рэформ. Супрацоўніцтва з Менскам, дзе працэс ужо пайшоў, можа стаць асабліва выніковым». Старшыня Саюзу прадпрымальнікаў Беларусі, старшыня камісіі па эканамічнай рэформе і бюджэту Менскага гарсавету У.Карагін выказаў думку, што «Менск можа падштурхнуць працэс прыватызацыі на тэрыторыі ўсёй краіны».

**А.ДУК.**

# БЮДЖЭТ, ШТО ДЫШЛА...

**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь больш не кантралюе бюджэт краіны. Яго ўзяла ў свае рукі Адміністрацыя прэзідэнта. Гэта далі ўсім зразумець прэм'ер-міністр і міністр фінансаў краіны, якія адмовіліся зрабіць справаздачу на чарговай сесіі Вярхоўнага Савету.**

Вярхоўны Савет зрабіў гнеўны зварот да Прэзідэнта, каб той прыслаў такі да дэпутатаў зарваўшыхся міністраў, але наўрад ці гэта здарыцца, бо што яны могуць сказаць, калі па дадзеных Кантрольнай Палаты за сем месяцаў гэтага года на ахову здароўя выдзелена ўсяго 29% гадавых сродкаў, заміж абавязковых 60%, на адукацыю - столькі ж. А вось расходы адміністрацыі «самага чэснага Прэзідэнта» склалі за сем месяцаў 190% ад гадавой нормы. Да канца года сума на ўтрыманьне гэтай структуры перавысіць сплanаваную ў тры разы.

Сёлета толькі на ахову «народнага ўлюбёнца» выдзелена ўжо 11,9 мільярдаў рублёў. На міністэрства ўнутраных спраў, г.зн. на міліцыю, АМАП і ўнутраныя войскі выдзелена сродкаў у два разы больш, чым на сельскую гаспадарку.

Трэба адзначыць і той факт, што 22,8% даходнай часткі - гэта паступленьні ад насельніцтва. За паўтара гады Лукашэнка ўвёў каля 70 пабораў з абрабаваўшага яго народа і працягвае ўводзіць новыя. Плаціце, дурні.

**Язэп АБУХОВІЧ.**

**Навагрудак** **28 верасьня 1995 г.**

## АЎКЦЫЁН

| Назва аб'екта, яго адрас | Тэрмін арэнды памяшкання | Агульная плошча (м.кв.) | Пачатковая цана (млн.руб.) |
|---|---|---|---|
| Будынак крамы N 32, вул.Леніна, 5 | продаж ва ўласнасць | 298 | 169,9 |
| Будынак крамы N 34, зав. Леніна, 3 | продаж ва ўласнасць | 97,5 | 46,2 |
| Сталоўка N 1, пл.Леніна,7 | 15 гадоў | 231 | 22 |
| Сталоўка N 5, вул.Паркавая, 2 | продаж ва ўласнасць | 237 | 229,2 |
| Крама N 37, вул.Гастэлы, 21 | продаж ва ўласнасць | 110 | 31,3 |
| Крама N 38, вул.Гродзенская, 90 | продаж ва ўласнасць | 186 | 357,5 |
| Крама N 4 "Галантэрэя",вул.Мінская, 3 | продаж ва ўласнасць | 247 | 191,2 |

Атрымаць поўную інфармацыю аб аб'ектах і падаць заяву на ўдзел у аўкцыёне можна па адрасу: г.Навагрудак вул.Міцкевіча, 9а, пак. 28. Тэл. (297) 20-851

# «ПРАЦЭС ПАЙШОЎ...»

## ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ ПРА ПЕРШЫЯ ШКОЛЬНЫЯ ДНІ

**Мая знаёмая вельмі хацела, каб яе сын вучыўся ў беларускамоўным класе з ангельскім ухілам, але ён трапіў у клас з навучаньнем на рускай мове.**

Аказваецца, беларуска-ангельскага класа ў гэтай школе не планавалася, і таму трэба было зрабіць выбар: вывучаць беларускую мову ці рускую з ангельскай.

Прага да веданьня замежнай мовы перамагла. Беларуская маці аддала беларускае дзіця вучыцца ангельскай мове...

* * *

Ванятка прыйшоў са школы надта расчараваны. Замест «Матэматыкі» яму і яго аднакласьнікам выдалі «Математику». Кажуць, у расейскім вучэбным дапаможніку больш лёгкія задачкі і прыклады...

Але дзеткам ад гэтага навtotaвядзеньня не лягчэй: даводзіцца чытаць умовы заданьняў па-руску і тут жа перакладаць іх. Бо дзеці паранейшаму думаюць і запісваюць у сшыткі рашэньні на роднай мове.

* * *

На пачатку новага навучальнага года ініцыятыўная група бацькоў пяцікласьнікаў СШ N3 вырашыла, што настала пара вярнуцца да «старых добрых часоў». Агітацыя за пераход дзяцей на рускамоўнае навучаньне праводзілася нахрапіста і мэтанакіравана. Кожнаму з бацькоў казалі: «Пішыце заяву на перавод, усе ўжо напісалі, вы - апошняя...» Агітацыя працягвалася і на бацькоўскім сходзе, які доўжыўся больш трох гадзін. Прыхільнікі рускамоўнага навучаньня пераконвалі «несьвядомых» у перавазе расейскай мовы над «чужароднай» беларускай, казалі пра перспектывы, якія адкрыюцца перад іх дзецьмі ў ВНУ Масквы, Санкт-Пецярбурга ды іншых расейскіх гарадоў. Праведзенае пасьля спрэчак галасаваньне паказала, што 11 чалавек - за перавод навучаньня на расейскую мову, а 11 - супраць. Адзін чалавек устрымаўся. Але, напэўна, і яго ўгаварылі, бо назаўтра ўрокі вяліся па-расейску. Бацькі вырашылі лёс сваіх дзяцей.

* * *

Сын носіць на куртачцы Пагоню. Штодня гэты значок выклікае пытаньні аднакласьнікаў.

Сёньня паклаў у партфель кнігу Вінцука Вячоркі «Пра герб і сьцяг».

- Навошта? - спыталася я.

- Так мне будзе лягчэй ім праўду даказваць...

Праўду заўсёды трэба даказваць...

**А.БІБІКАВА,**
**г.Шчучын.**

# ЧАМУ ДАРАЖЭЕ ХЛЕБ?

**Дзевятага верасьня ізноў на 20% падаражэў чорны хлеб - апошняя надзея працоўнага беларуса. За хлебам папаўзуць цэны на іншыя прадукты.**

Па ацэнках экспертаў ценавога кабінета міністраў да канца года цэны на прадукты харчаваньня вырастуць больш чым удвая. У чым справа? А ў тым, што за 1,5 гады кіраўніцтва Лукашэнкі Беларусь з краіны, якая вывозіла прадукты харчаваньня, ператварылася ў краіну, якая мусіць іх увозіць. Сёлета калгасы і саўгасы Беларусі забясьпечаць краіну ня больш чым на 60% асноўнымі прадуктамі харчаваньня: зернем, мясам, бульбай. Па такіх пазіцыях як цукар, алей, рыба гэтая лічба ў шмат разоў меншая. Беларусь змушана будзе завозіць неабходную рэшту з-за мяжы. Не з Расеі, з якой у нас няма мытных падаткаў, там яшчэ большая галеча, а з іншых краінаў. А вось тут пачынае дзейнічаць пагадненьне аб агульнай мытнай прасторы, згодна з якім усе прадукты, што завозяцца ў Беларусь і Расею, абкладваюцца дзесяткамі розных падаткаў ды так, што кошт іх пасьля перавозу праз беларускую мяжу ўзрастае ў 1,7-5 разоў. Зразумела, што гэтыя прадукты будуць даражэйшыя за нашыя, але ж сваіх няма, а імпартных не дакупіцца. Паўстае вечнае пытаньне: «Што рабіць?» Яно трансфармуецца з філасофскага ў чыста жыцьцёвае: «Што зьесьці?»

Ня лепш выглядае справа і з прамысловымі таварамі. Патрыманая машына, кошт якой на Захадзе 300 долараў, пасьля ўсіх збораў, пабораў, якія існуюць і ўводзяцца дадаткова пад ціскам расейскіх аўтамабільных канцэрнаў, пачынае каштаваць 6-9 тысяч долараў.

Ездзіце, беларусы, а дакладней поўзайце, бо зараз з галадухі й ног не пацягнеце.

**Кастусь АЛЬГЯРДОВІЧ.**

 

 



# З НАГОДЫ

# ЯКАЯ ЯНА, ГІСТАРЫЧНАЯ ПРАЎДА?

**У верасьні адзначаецца ня толькі «Дзень вайсковай славы». 1-га верасьня 1939 года пачалася Другая сусьветная вайна, у якой непасрэдны і пасіўны ўдзел прымала большасьць насельніцтва Заходняй Беларусі.**

У сувязі з гэтым вельмі важна ўчытвацца ў дакументы тых часоў, напамінаць аб акалічнасьцях і сапраўдным ходзе падзей таго часу. Бо, не забудзьма, што ў час, калі таварыш Замяталін пісаў аб забароне падручнікаў 1992-95 гг. выданьня, камуністы падтрымлівалі гэты крок, матывуючы тым, што падручнікі па гісторыі нашай Бацькаўшчыны напісаны хлусьліва, аўтары адыйшлі (адступілі) ад гістарычнай праўды. «Бачыце, - расьпінаўся на тэлебачаньні адзін з кіраўнікоў камуністычнай партыі Беларусі, - аўтары напісалі ў падручніку гісторыі, што Другая сусьветная вайна ўзьнікла ў выніку зговару гітлераўскай Германіі і СССР, што Савецкі Саюз актыўна ўдзельнічаў у Другой сусьветнай вайне ад верасьня 1939 года, калі ўсім вядома, што ўдзел СССР у Другой сусьветнай вайне зводзіцца да Вялікай Айчыннай вайны пасьля нападу Гітлера на СССР». Калі прэзідэнт Лукашэнка адмовіўся ад таго, што ён падпісваў указ аб забароне падручнікаў і дапаможнікаў 1992-95 гадоў выданьня, ён на тым жа паседжаньні гаварыў аб неабходнасьці друкаваць у «Настаўніцкай газеце» артыкулы, якія б больш аб'ектыўна асьвятлялі гісторыю нашай Айчыны, асабліва ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Гэта сьведчыць аб тым, што і прэзідэнт нязгодны з аўтарамі падручнікаў, дзе сьцьвярджаецца, што СССР пачаў актыўна ўдзельнічаць у другой сусьветнай вайне ўжо ў верасьні 1939 года, а не ў чэрвені 1941 года, як хочацца камуністам укласьці ў галовы нашых дзяцей.

Але на дапамогу аўтарам падручнікаў, якія зараз так крытыкуюцца, прыйшла вольная прэса Расіі, якая да гадавіны пачатку другой сусьветнай вайны надрукавала дакументы той пары, частка якіх была дагэтуль сакрэтная, а частка ўжо забылася. Давайце ўчытаемся ў тыя дакументы, мо гэта дапаможа нам выявіць праўду.

Вось нота ўраду СССР ураду Польшчы ад 17 верасьня 1939 года. Каб не зрабіць якой памылкі, падаецца на мове арыгіналу паводле публікацыі газеты «Совершенно секретно» N 8 за 1995 год (артыкул «Раздел»). Тэкст дакумантаў падаецца няпоўнасьцю дзеля эканоміі газетнай плошчы. Часам падкрэсьліваецца толькі самае галоўнае.

*«Нота правительства СССР.*
*17 сентября 1939 года.*

*Господин посол. Польско-германская война выявила внутреннюю несостоятельность польского государства. В течение десяти дней военных операций Польша потеряла все свои промышленные районы и культурные центры. Варшава, как столица Польши не существует больше (гэта няпраўда; Варшава змагалася да канца верасьня 1939 года і ў ёй засталося шмат да зьнішчэньня яшчэ ў 1944 годзе. - А.Б.) Польское правительство распалось и не проявляет признаков жизни...*

*...Тем самым прекратили своё действие договоры, даключённые между СССР и Польшей. Предоставленная самой себе и оставленная без руководства, Польша превратилась в удобное поле для всяких случайностей и неожиданностей, могущих создать угрозу для СССР.* ***Поэтому, будучи доселе нейтральным, Советское правительство не может больше нейтрально относиться к этим фактам.***

*(подпіс)*

*Народный Комиссар Иностранных Дел СССР В.Молотов».*

А зараз адзначым адну акалічнасьць: калі да вайны перастаюць адносіцца нейтральна, тады пачынаюць адносіцца актыўна, прымаючы непасрэдны ўдзел у ваенных дзеяньнях. Аб тым, што Чырвоная Армія прымала ўдзел у вайне супраць Польшчы, ад чаго і пачалася Другая сусьветная вайна, сьведчыць і «Парад Перамогі» над Польшчаю, які адбыўся ў Берасьці 25 і 28 верасьня 1939 года, аб якім сьведчыць дакументальны фільм, які тэлебачаньне Астанкіна паказвала неаднойчы. А хто ня бачыў той «Парад перамогі» нямецкіх войск разам з савецкімі, няхай удумаецца ў выказваньне Молатава, зробленае ім у заяве пасьля «польскай кампаніі»: «Поход Красной Армии был ударом, **приведшим вместе с ударом немецких войск** к распаду польского государства - уродливого детища Версальского договора».

Калі мала і такога прызнаньня Вячаслава Молатава, што польскую дзяржаву, з-за якой пачалася Другая сусьветная вайна, з-за якой вайну Нямеччыне аб'явілі Англія і Францыя яшчэ 3 верасьня 1939 года, разбуралі сумесна нямецкія і савецкія войскі? Тады разгледзім вайсковыя рапарты тых дзён, апублікаваныя ў той жа газеце.

*Сов. секретно.*
*МОСКВА -*
*т.т. СТАЛИНУ,*
*МОЛОТОВУ,*
*ВОРОШИЛОВУ*

***I) При переходе в наступление Красной Армии*** *(а ці бывае наступленьне без вайны? - А.Б.) польская армия настолько была деморализована (а мо не чакала такой подласьці падчас змаганьня з фашызмам? - А.Б.), что почти не оказала никакого сопротивления, за исключением отдельных небольших сопротивлений пограничных войск, осадников и отходящих частей под руководством главного командования.*

***2) В плен захвачено очень много рядового и офицерского состава.*** *Часть* ***захваченных пленных*** *удалось направить по желдороге из Станислава на Гусятин. Однако большая часть пленных разбежалась по домам, так как грунтовые участники не налажены, считать их нечем и вообще к приему такого большого количества пленных мы оказались не готовыми. Отбираются главным образом офицеры. Среди пленных ведётся политработа. Считаю, что необходимо указание правительства о роспуске пленных белорусов и украинцев по домам после их переписи,* ***так как питать их нечем*** *и конвоирование тре оует большого количества солдат.*

*(...)*

***29.9.39 Кулик***

Мо тыя, хто крытыкуе падручнікі па гісторыі скажуць нам, як можна захапіць шмат салдат у палон без вайны. Тыя, хто не ваюе, а прымае на сваю тэрыторыю войскі чужой дзяржавы, не жадаючыя ваяваць, інтэрніруюць іх. ІНТЭРНІРУЕ, а не бярэ ў палон, як інтэрніравалі ў верасьні 1939 года польскіх салдат улады Літвы, ці Румыніі.

Ну, «аб гуманных адносінах» бальшавікоў да палонных сьведчыць наступны дакумант, які ЦК камуністычнай партыі СССР хаваў у самых патайных месцах больш за 45 гадоў:

*<u>СТРОГО СЕКРЕТНО</u>*
*(Из О.П.)*
*Всесоюзная Коммунистическая Партия (большевиков).*
*ЦЕНТРАЛЬНЫЙ КОМИТЕТ*
*решение от 5.03.40 г.*
*144. - Вопрос НКВД СССР.*

*I. Предложить НКВД СССР:*

*1) Дела о* ***находящихся в лагерях для военнопленных 14 700 человек больших польских офицеров,*** *чиновников, помещиков, полицей ских, разведчиков, жандармов, осадников и тюремщиков;*

*2) а также дела об* ***арестованных*** *и находящихся в тюрьмах западных областей Украины и Белоруссии в колличестве 11 000 человек членов различных к-р (контрреволюционных А.Б.) шпионских и диверсионных организаций,* ***бывших помещиков, фабрикантов, бывших польских офицеров,*** *чиновников и перебежчиков -* ***рассмотреть в особом порядке, с применением к ним высшей меры наказания - расстрела.***

*II/ Рассмотрение дел произвести без вызова арестованных и* ***без пред'явления обвинения.***

(выходзіць, што абвінавачваць не было ў чым, праступства не было!!! - А.Б.) Во ЯК!!!

Ці не таму так хацелася б скрыць гэтыя непрыглядныя факты кіраўнікам Камуністычнай партыі Беларусі?

А ці быў зговар, які запэўніў кіраўніцтва гітлераўскай Германіі аб тым, што агрэсію супраць Польшчы можна пачынаць, Савецкае кіраўніцтва не заступіцца за славян, аддасьць іх на волю нямецкага заваёўніка (падкрэсьліваю гэта для роздуму кіраўнікоў Славянскага Сабора «Белая Русь» - А.Б.) гэта нават наіўна гісторыкам абвяргаць. Як вядома, дагавор аб ненападзеньні паміж Савецкім Саюзам і Германіяй гарантаваў гэта. Дагавор падпісалі 23 жніўня 1939 года, ратыфікавалі ў адзін і той жа дзень 31 жніўня 1939 года і ў Маскве і ў Берліне, а з 1-га верасьня 1939 года пачалася вайна. Тады сьпяшаліся абодва бакі, а да перамогі трэба было ісьці амаль поўных 6 гадоў. Не 1418 дней і начэй, як хацелі б укласьці ў галавы нашых вучняў спадары гісторыкі ад ленінізму, а на трэць больш - 2078 дней і начэй. Вось якая розьніца паміж паняцьцямі «другая сусьветная вайна» і «Вялікая Айчынная вайна». У вогнішчы другой сусьветнай аказаліся ўжо 1-га верасьня 1939 года больш за тры мільёны заходніх беларусаў і гэты факт таварышу Замяталіну не ўдасца замясьці. Прэзідэнт незалежнай Беларусі павінен аб гэтым ведаць і памятаць. Так што ў адрозьненьне ад Расіі, у Беларусі вайна пачалася 56 гадоў таму і кіраўніку дзяржавы гаварыць толькі аб Вялікай Айчыннай не прыстала. Бо мы, на Захадзе - трэцяя частка народа, трохі больш, чым да нас заслалі з Расіі розных замяталіных за 50 пасьляваенных гадоў.

Ну, а зговар з немцамі даказваюць гэтыя тайныя пагадненьні:

*СЕКРЕТНЫЙ ДОПОЛНИТЕЛЬНЫЙ ПРОТОКОЛ*

*При подписании договора о ненападении между Германияй и Союзом Советских Социалистических Республик нижеподписавшихся уполномоченные обеих сторон обсудили в строго конфи денциальным порядке вопрос о разграничении* ***сфер обоюдных интересов*** *в Восточной Европе. Это абсуждение привело к нижеследующему результату:*

*2. В случае территориально-политического* ***устройства*** *областей, входящих в состав Польского Государства, граница сфер интересов Германии и СССР будет приблизительно проходить по линии рек Нарева, Вислы и Сана.*

*Вопрос, является ли в обоюдных интересах желательным сохранение независимого Польского Государства и каковы будут границы этого государства, может быть окончательно выяснен только в течение дальнейшего политического развития.*

*Во всяком случае,* ***оба Правительства*** *будут решать этот вопрос в порядке дружественнюго обоюдного согласия...*

*4. Этот протокол* ***будет сохраняться обеими сторонами в строгом секрете.***

*Москва, 23 августа 1939 года.*
*По уполномочию правительства СССР В.Молотов*
*За правительство Германии Риббентропп*

*РАЗЪЯСНЕНИЕ*

*к «Секретному дополнительному протоколу» от 23 августа 1939 года*

*В целях уточнения первого абзаца п.2 «Секретного Дополнительного Протокола» от 23 августа 1939 года настоящим разъясняется, что этот абзац следует читать в следующей окончательной редакции, а именно:*

*«2. В случае территориально-политического переустройства областей, входящих в состав Польского Государства, граница сфер интересов Германии и СССР будет приблизительно проходить по линии рек ПИССА, НАРЕВА, ВИСЛЫ и САНА».*

*Москва,* ***28 августа 1939 года***
*По уполномочию Правительства СССР Молотов*
*За Правительство Германии Шуленбург*

Самае цікавае ў гэтым апошнім паясьненьні гэта тое, што лінія па рэчкам Нарэў, Вісла і Сан - гэта другая лінія абароны палякаў падчас вайны. (Начальный период войны. Военное издательство Министерства обороны СССР, Москва 1974, стр. 240)

Вось праўда, заснаваная на дакумантах. На мой погляд, яна не супярэчыць напісанаму ў падручніках. Ды к у чым справа, панове?

**Аляксандр БАХАНЧЫК.**

# «МЫ НА ІХ, ЯК НА БУРЖУЯЎ, ГЛЯДЗЕЛІ...»

**Васіль Б. удзельнічаў у «вызвольным» паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Пасьля ён ваяваў супраць фінаў і немцаў у складзе сьпецгруп НКУС. Быў паранены. Пасьля вайны ўдзельнічаў у карных аперацыях НКУС супраць летувіскіх «лясных братоў» і беларускай партызанкі. Некалькі гадоў таму я запісваў ягоныя ўспаміны. Неяк зайшла гаворка пра верасень 1939 года.**

**- Васіль Малахавіч, Вы ўдзельнічалі ў «вызвольным» паходзе Чырвонай Арміі?**

- Я служыў у Беларусі, у войсках НКУС, на самай мяжы, калі немцы напалі на Польшчу. З нас адразу сфармавалі сьпецгрупу НКУС, але задач ня ставілі - мы чакалі тыдзень, а мо і болей... Ну а 17-га верасьня атрымалі загад і рушылі на захад...

**- Ці сустракалі Вы супраціў польскіх войскаў?**

- На шляху нашай групы яго не было, а ў іншых месцах, казалі, былі сутычкі. Мне распавядалі пра такі выпадак. Нашыя танкі рухаліся па шашы, калі былі заатакаваныя польскай кавалерыяй. Танкісты спачатку падумалі, што палякі звар'яцелі, бо тыя падскоквалі да танкаў і ...рубалі іх шаблямі. Аказваецца, гэта польскі афіцэр сказаў жаўнерам, што бальшавіцкія танкі з фанеры... Усе яны паздаваліся ў палон.

**- Неяк Вы распавядалі, што трапілі ў Слонім...**

- Так, нашая група ўвайшла ў Слонім і пачала выконваць сваё заданьне. Мы арыштоўвалі польскіх афіцэраў, паліцыянтаў, капіталістаў, нацыяналістаў... Усіх іх трымалі пад аховай да прыбыцьця ворганаў дзяржбясьпекі...

У Слоніме ледзь не забіўся. Канфіскоўвалі мы ў паноў машыны, матацыклы. А я й ня бачыў ніколі матацыкла, але неяк завёў і паехаў. Еду ў бок маста праз Шчару, а яго... няма - разбураны. Ледзь пасьпеў у кювет заехаць.

**- А ці ня ведамы Вам лёс арыштаваных?**

- Ня ведаю. Маглі расстраляць або ў Сібір выслаць, а маглі й вызваліць. Некаторыя адкупляліся... Нашая сьпецгрупа праз некалькі дзён апынулася ў Ваўкавыску. Мы ахоўвалі каштоўнасьці, канфіскаваныя ў арыштаваных. Асабліва многа золата й грошай забралі ў жыдоў. Быў выпадак, калі ў аднаго жыда сканфіскавалі золата, а ў другога нічога не знайшлі, бо было добра схаванае. Дык той і пахваліўся няшчаснаму суседу, што ў яго ўсё засталося на месцы. А сусед стукнуў куды трэба й у таго ўсё вытрасьлі...

**- Як сустракалі Вас людзі? Ці былі кветкі?**

- Усё было... Хоць, канешне, мы на іх, як на буржуяў, глядзелі. Усе яны добра апранутыя, крамы поўныя... Нават сёньня памятаю вершык, што тады палякі любілі казаць:

*Да відзэньня кумпякі,*
*Да відзэньня млеко,*
*Бо пся-крэў бальшавікі*
*Бардзо недалеко...*

**Запісаў Сяргей ДУДАЛІЧ.**

 

